Ня трэба патронаў, знарадаў —
Замнога панесьлі мы страт!
Задарага вельмі купілі
Народы сабе супакой:
Крывёй бо стары сьвет абмылі,
Як бераг балотны ракой...

**З. Вохаць.**

---

# АПОШНІЯ НАВІНЫ.

Перад самым выхадам газэты мы даведаліся, што бальшавікі ля Вільні саусім разьбіты і ўцякаюць, кідаючы па дарозе аружжа, амуніцыю і рознае вайсковае багацьце. Колькі чаго захоплена польскім войскам, пакуль што не падлічана, але напэўна кажуць, што забраты арматы, кулямёты стрэльбы, колькі тысячаў палонных, пабіт і забрат панцырны поезд. Забітых і зраненых з боку непрыяцеля надта а надта многа.

## УЧОРАШНЯЯ АБАРОНА ВІЛЬНІ.

Наш супрацаўнік з пэўнай польскай вайсковай крыніцы даведаўся аб апошніх бітвах за Вільню. Ад прадстаўніка вышэйшае польскае каманды, які ахвотна падзяліўся апошнімі навінамі з фронту ля Вільні, наш супрацаўнік пачуў вось што:

„Ужо 28-га красавіка даходзілі весткі, што бальшэвікі рыхтуюцца атакаваць Вільню, каб захапіць яе.

Бальшавіцкія сілы зьбіраліся на лініі Нямянчын — Падбродзе па дарозе з Дзьвінска на Вільню.

З гэтага разьвіўся першы акт барацьбы. 28-га зраньня нашыя палкі прымусілі бальшэвікоў адыйсьці у кірунку на Падбродзе.

Другі акт пачаўся у кірунку Маладэчна-Вільня у той-жа дзень а пятай гадзіны на паўдні.

Бальшавіцкая 17-я дзівізія, кінутая з Бабруйска, з артылерыяй і панцырнымі поездамі, пасунулася раптам на Вільню.

Наша мэта была задзержыць бальшавікоў датуль, пакуль ня будзе сьцягнена сюды войска, бо значная часьць яго была пад Нямянчынам.

Гэта й сталася на лініі Гура-Купрыянішкі.

29-га ураньні мы меліся тут пайсьці ў атаку, але бальшавікі пачалі атаку пярвей.

Аднак дзякуючы нашай артылерыі і пяхоце, бальшавіцкая атака не ўдалася, і мы узялі ініцыатыву у свае рукі.

Бальшавікі мусілі уцекаць.

Вільня у поўнай баспэчнасьці“

## Марыя Сьпірыдонава уцекла.

Як паведамляюць газэты расейскіх левых эсэраў, цэнтральны камітэт гэнае партыі зрабіў пастанову, каб наснудзіць уцёкі вядомай лева-эсэраўскай правадыркі Марыі Сьпірыдонавай, бо бальшавікі зусім бы зьвялі яе са сьвету тым „санаторным“ рэжымам, на які Сьпірыдонава была засуджана бальшавіцкім трыбуналам.

Пастанова камітэту ужо споўнена.

Вывеў яе з так званага „Цугуннага Калідора“ адзін з яе вартаўнікоу, селянін Малахаў. Гэнага „чрэзвычайніка“ надта ужо мучыла сумленьне за яго працу, і знайшоўшы такую прычэпку, як вызваленьне Сьпірыдонавай, ён надумаўся адразу спакінуць сваё сытае катняе жыцьцё і пайшоў на сьмяротную рызыку.

У выпадку якой незадачы, Малахаў цьвёрда арашыў затуліць сваім трупам магчымасьць Сьпірыдонавай уцячы, узьняўшы страляніну і зьдзержыўшы гэтым варту. Апошнюю кулю ён пакідаў на сябе, каб ня трапіць жывому у кіпці надзвычайных катаў, якіх ён дужа добра знаў.

У цяперашні час Сьпірыдонава і Малахаў знаходзяцца у баспэчнасьці. Сьпірыдонава узноў завінулася каля партыйнай працы.

---

# Уселякія весткі.

## З конгрэсу аб міры.

**Парыж.** 28/IX. Склад сіл на конфэрэнцыі аб міры пачынае зьмяняцца. З аднаго боку завастрыўся конфлікт між Амэрыкаю і Італіяй, што ўзьняўся ў справе Рекі (Фіумэ), каторую італьянцы супроць жаданьням Вільсона ня хочуць пакінуць кроатам. Сягоньня Орляндо, прадстаўнік Італіі, пакінуў Парыж і паехаў у Рым. Ен прасіў урадава, каб саюзьнікі ўзялі на сябе абарону патрэб Італіі.

З другога боку зварочавае ўсіх увагу зьмена адносін конгрэсу да Нямеччыны, з каторай пачынаюць абходзіцца, як з раўнапраўным сябрам конгрэсу, даючы ім магчымасьць тэлефанаваць, тэлеграфа-

---

ваючы, што абурэньне спадае, баліць трошку галава і бярэ ніздавальненьне, на што гаманіў.

Ахінаў с поля зямельны жытні пах. Вялікія стагі сена паілі паветра араматам. Грады бульбы і буракоў без канца мітусіліся сярод сьціхлых на нач дрэў,— а ні радавалася гаспадарская душа.

— К чаму, на што? — думаў ён ні то аб гэтым багацці наўкола, ні то аб тым, што спрачаўся:—як ні спрачайся,— жывець кожны, як жывецца.

І быў пэўны, што нікому ня зьбіць яго з думкі. што трэба вялікім быць і усё парваць.

Жыў ён у Амэрыцы дваццаты год, куды прыехаў шчэ хлопцам разам з Эльзаю, дачкою лесапільшчыка-немца, да яе дзядзькі, фэрмера-амэрыканца. Як борзда прабеглі годы! Ажаніўся з Эльзаю, дзетак прыждаў, багацця прыдбаў, кіруе усёй фэрмай. Жыцьцё у Міншчыні, дома у бацькі, і потым на нямецкай лесапілцы у Шульца, ў панскім лесі,—усё гэта здавалася цяпер далёкім сном. Ня было каму пісаць лісты і не было ад каго мець іх. Шульц з Еўні выехаў у Прусію, бацькі паўміралі. Як борзда прабеглі гады!

Блізка фэрмы ішла на спатканьне жонка. Завінуўшыся у цёплую пуховую хвустку, стаяла на аллейцы і угледалася на дарогу.

Застанавіліся дрожкі. Балазевіч зьлез. Жонка падбегла і абшчапіла.

— Міленьні! Я выйшла страчаць,— прыпала да вуснаў.

— Дзякуй, Эльзачка,—ласкава прыгладзіў ён яе белакурыя валасы, што ніпакорлівымі кручастымі завітушкамі выбіліся, і падумаў: „А яна усё такая ж лятуценьніца ціхая, як і у першыя маладыя годы тут, на чужбіні“, — і пачуўшы нівыразную кукобасьць да яе, прыемна-дэлікатна абхапіў за плечы і павёў на ганак.

— Макся! Лёвачка і Галінка пазаснулі, а чакалі, чакалі таты..

У атказ, ён пацалаваў яе у круглыя, сінія, быць налітыя сьлязьмі і крышку лупаценкія вочы, так не падобныя да воч їхных вясковых дзяўчат і гэтак яго зманіўшыя там, у Міншчыні.

Стары гаспадар, бязьдетны дзядзька Эльзы, яшчэ хадзіў па двару, схіліўшыся да свае качарэжкі махрамі трубкі, і прыветна стрэў іх. Роўна паздароўкаўся з ім Максім і дастаў с кішэні нумэр „Der Tag.“.

— Добра зьездзіў, Макс? — спытаў стары, хаваючы любімую газэту.

— Усё добра, — адказаў і падумаў: „На душы ня надта добра“.

Прайшоў у пакой і пачаў раздзявацца і мыцца. Гукнуў з двара Язэпа і даў новенькую польскую кніжку, а сабе на столік начавы у спальні палажыў „Аб бацькаўшчыні і нацыяналізму“ і загадзя запэўняў сябе, што навін там ля сабе ня знайдзе.

За вячэраю, калі селі за стол, стары важна распасьцёр газэту побач талеркі, і відаць было, што яму трэба пагаманіць с пляменнікам аб сусьветных справах.

Гаварылі звычайна па ангельску, але Эльза да мужа, калі заставаліся адны, гаварыла па беларуску, быццам даводзячы, што яе душа блізка яму. Яна вырасла на лесапілцы у Еўні і тут, на амэрыканскай фэрмі, часта сумавала і нат тужыла па тэй краіні ці па сваёй моладасьці.

— Максінька,—часам казала яна,— Бог і з ім с тым багацьцем і с тэй воляю: паедзем назад у Міншчыну.

— Што ты там згубіла?—пытаў ён.

— Макся! Ну, я-ж там узрасла, цябе там пакахала.

— Радзілася ты ў Прусіі, а калі жыла на Беларусі, дык вот жывеш і ў Амэрыцы.

— Макся! Ну, то-ж твая бацькаўшчына.

*М. Гарэцкі.*

(Далей будзе).

ваць у бацькаўшчыну, свабоду рухаў і г. д.

Сягоньняшняе „Echo de Paris“ кажа, што мір падыктованы расплываецца, як мыгла. Конгрэс нічога не пастановіць бяз згоды немцаў.

**Большавізм у Польшчы.**

Варшаўскія газэты паведамляюць, што польскія большэвікі цяпер у Варшаве зробілі зьезд. На зьезд прыехалі большэвікі з важнейшых і найболын прамысловых мест Польшы, ёсьць навет прадстаўнікі з Расеі, Вэнгрыі і Нямеччыны.

Газэты кажуць, што галоўная мэта зьезду прыгатаваць разрухі ў Польшчы на 1-га мая. З гэтай-жа мэтай шырацца большавіцкія проклямацыі і зьбіраецца аружжа. Есьць думка ўзноў зробіць у Варшаве зьезд дэпутатаў работніцкіх рад з усяе Польшчы.

**Панская рэформа.**

Чэскія газэты паведамляюць, што камісія чэскага нацыянальнага сойму разглядала зямельную рэформу ў Чэхіі.

Камісія пастанавіла, што паном можна пакінуць найбалей па тысячы маргоў зямлі. За забраную зямлю дастануць плату толькі тыя, аб каторых будзе даведзена, што яны ня выступалі проціў чэска-славацкай рэспублікі.

**Паўстаньне сялян.**

На у Украіне ўзьнялося паўстаньне сялян проці большэвікоў. Зносіны чыгункай перарваны, масты на Ісяэню і Цецераве паруханы. Дагэтуль паўстаньне абхапіла 30 воласьцяў. Тульскія большавіцкія палкі перайшлі на старану паўстанцаў. Паўстанцы занялі Кіеў, пры гэтым на прадмесьці Падольле была заўзятая бітва. Якія адносіны паўстанцаў да Петлюры, няма ведама.

**Большэвізм у Англіі.**

У апошнія дні ў Англіі арыштавалі і пасадзілі ў турму балей за 100 большэвіцкіх агітатароў.

# У ВІЛЬНІ.

## Беларускія рукапісы у небясьпецы.

Беларускі адзел пры бальшавіцкім камісарыяце народнае асьветы маніўся выдаць найбольш патрэбныя школьныя, навучныя і другога характара беларускія кніжкі, на што былі ассыгнаваны грошы. Рукапісы пасьля прагляду Беларускім Навуковым Таварыствам былі зложаны у аддзелі асьветы.

Цяпер пры новай польскай уладзе беларусы зьвярнуліся да палітычнага каміссара пана Юра Осмолоўскага просячы дастаць гэныя рукапісы. Пан Осмомоўскі вельмі прыхільна прыняў прасіцелёў і запэўніў, што гэта будзе зроблена, даўшы ліст да пана Яна Пілсудзкага, ад каторага залежыць гэтая справа.

Але, як паказваецца, добрая воля і прыхільнастць пана Осмолоўскага да беларусаў ня мае значэньня у пана Яна Пілсудзкага, каторы сказаў, што пусьціць у бышы аддзел асьветы нікога ня можа. рукапісы тымчасам могуць быць зьніштожаны, а друкаваньне ужо ня можа ісьці бяз іх далей.

Праца колькіх людзей для беларускага рароду можа прапасці, і гэткая шкода бадай што і ня зьверне ўвагі яго вяльможнасьці пана Яна Пілсудзкаго, так сама поўне прыхільнаго беларусам...

**1-е мая.**

Пакуль у Вільні была Радная ўлада работнікі рыхтаваліся сьвяткаваць 1-е мая.

Цяпер нічога ня чуваць.

Гэткае бяздзеіньне на'т сьвядомай часткі мястовага пралетар'яту зробіць тое, што пралетарскае сьвята мінецца у Вільні зусім ніяк не адзначаным.

**Тэлеграмы з Варшавы.**

З пэўнай крыніцы маем вескі, што за якіх два дні у Вільню пачнуць рэгулярна прыходзіць тэлеграмы П. Т. А. з Варшавы.

**На чыгунцы.**

Аб агульным палажэньні на чыгунцы можна пакуль што сказаць некрасаўскім вершам „Вот придет барин, барин нас рассудит“. Як паведамляюць газэты, гэны „пан“ ужо едзіць з Варшавы (як калісь прыежджаў з Масквы). Кажуць, што бальшавіцкія штаты служачых будуць значна зьменшаны; зволненыя асобы будуць лічыцца „кандыдатамі“. Быў, кажуць, прыкмецен кірунак звальняць ад службы тых, што ня ведаюць польскай мовы, але з нейкай прычыны гэты кірунак зрабіўся мякчэйшым.

**Сьпісаньне.**

Дзеля справядлівага, акуратнага ды найхутчэйшага раздзелу жыўнасьці між усім насяленьнем г. Вільні, будзе зроблена сьпісаньне жыхароў.

**Яшчэ аб польскай мове.**

На нашую вестку ў № 1 аб тым, што польская окупацыйная ўлада будзе прымаць на службу толькі ўмеючых польскую мову, польская газэта „Nasz Kraj“ у № 7 адказвае, што гэта не адпаведае таму што ёсьць. Тымчасам яшчэ ўчора наш супрацаўнік меў гутарку з сябрам Беларускае Рады, ад якога даведаўся, што надовічы камісар „усходніх зямель“ п. Юры Осмолоўскі, заявіў бышым у яго прадстаўніком Рады, што будуць прымаць на службу ў розныя урады толькі ўмеючых па-польску. Пры гэтым п. камісар сказаў, што якраз гэтак рабіла і нямецкая окупацыйная ўлада. Дык каму тады верыць: пану камісару ці „Naszamu Krаju“?

Справа тут ня ў спрэчках, а у тым, каб гэтая вельмі шкодная для вялікай большасьці мясцовага насяленьня пастанова ці жаданьне ўлады не праводзілася ў жыцьцё.

Трэба яшчэ адзначыць, што ў нас напісана аб інтэлегентных работніках, а ня проста аб работніках, як піша „Nasz Kraj“.

**„Літоуска-беларуская“ дзівізія.**

Разьлеплены абвесткі на вуліцах і пішуць польскія газэты аб тым, што пачата арганізацыя якойсь „літоуска-беларускай“ дзівізіі. Яшчэ нядаўна няма ведама чаму чырвоная армія таксама называлася, «беларускай».

Чаму гэтая новая дзівізія мае звацца літоўска-беларускай, нас вельмі дзівіць, бо, як мы даведаліся, Беларуская Рада і наагул ніякая беларуская арганізацыя ў формованьні яе ўчасьця ня прыймаюць.

**Як падобна!**

У ўрадавай мове польскай окупацыйнай улады окупаваныя польскім войскам беларускія землі названы „усходнімі землямі“. Прыпомнім што калісь маскоўскі ўрад называў Беларусь „заходнім краем“, а нядаўны нямецкі «Obost».

# СХОД ПАНОУ.

У нядзелю, 27-га красавіка, адбыўся у Вільні вялізарны сход паноў - памешчыкаў, на каторым разгледаліся справы іх маёнткаў і хваляваранай службы. На сходзе выказаўся праўдзівы патрыатызм кішані. Пан Бароўскі здаваў рэляцыю аб палітычным момэнці у Польшчы і заахвочываў паноў, каб павялічылі пэнсіі сваім батраком. Паны адмовіліся, паясняючы, што маёнткі зруйнаваны, даходу німа і ня будзе, а прынятыя у Польшчы нормы іх не абавязваюць. Сход меў чыста грашова-панскі характар і ні да чаго, апрача некалькіх нацыянальна-польскіх пажаданьняў, ні прыйшоў.

———

# Горадзеншчына.

**Беларускія газэты.**

**„Беларусь“**, нацыянальна - палітычная газэта, выходзіць два разы у тыдзень: у нядзелю і сераду. Адрэс рэдакцыі і адміністрацыі: Гродна, Саборная вуліца, д. № 23. „Беларусь“—орган Цэнтральнай Беларускай Рады Гарадзеншчыны.

**„Бацькаўшчына“**, беларускі соцыялістычны тыднёвік, выдаецца пры супрацоўніцтве вядомых беларускіх палітычных дзеячоў, пісьменнікоў і культурных работнікаў. Адрэс рэдакцыі і канторы: Гродна, Сафійская вул., 26.

**Сьвяткаваньне.**

25-га сакавіка г. г., з прыпаду гадаўшчыны аб'яўленьня незалежнасьці Беларусі, у памяшчэньні Беларускага клюбу адбылася у-вечары гарбата, на каторую былі запрошаны беларускія дзеячы, вучасьнікі вучыцельскага зьезду і шмат іншых гасьцей. Старшыня Цэнтральнай Рады П. Аляксюк прачытаў устаўную грамату Рады Рэспублікі, пасьля чаго быў прапеты беларускі нацыянальны гімн. З прамовамі выступалі Старшыня, грам. Квяцінскі, прадстаўнік Беларускага Камітэту грам. Натусэвіч і інш.

**Хрысьціянская грамада.**

У Горадні заснавалася беларуская хрысьціянская Грамада.

**Прафэсыянальныя саюзы.**

Паміж горадзенскіх беларусаў-работнікаў з'арганізаваны прафэсыянальныя саюзы: чыгуншчыкаў, працаўнікоў почт і тэлеграфу, працаўнікоў розных грунтавых дарог.

**Чародны нумэр выйдзе у пятніцу.**

Рэдактар і выдавец

**I. Вайцяховіч.**